# Дзень Волі. Магілёў

У суботу, як і было пазначана ў абвестках, паклееных у горадзе напярэдадні, сябры апазыцыйных палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, свабодных прафсаюзаў і проста грамадзяне сабраліся на прыпынку "пл.Арджанікідзэ". Адтуль яны меліся рушыць да месца дазволенага мітынга пратэсту супраць галечы.

Напачатку адбылася невялікая затрымка, бо не было галоўнага арганізатара, якога чакалі людзі і шукалі супрацоўнікі міліцыі. Трэба адзначыць, што сваёй прысутнасьцю яны надавалі мерапрыемству значную вагу як колькасьцю, так і вялікімі зоркамі на пагонах. Мелі цікавасьць да паводзінаў мясцовых апазыцыянэраў й самыя высокія чыны ўпраўленьня ўнутраных справаў, якія знаходзіліся ў белым "опелі" з танаванымі шыбамі, што стаяў наводдаль. Кідалася ў вочы й прысутнасьць прадстаўнікоў адмысловае структуры – ОМОН. "Крапавыя бэрэты" ехалі ўсьлед на легкавіку. Карэспандэнт "ТМ" пацікавіўся ў трох афіцэраў міліцыі пра інструкцыі, што тыя атрымалі перад выхадам на дзяжураваньне. У адказ прагучала, што асаблівых задачаў ня ставілася, акрамя адзінае: ахова правапарадку.

Калі тых, хто хацеў узяць удзел у мітынгу, набралася блізу паўтары сотні (ды й час патрабаваў дзеяньняў), людзей крыху пашыхтавалі ў калёну, якая й рушыла зь пляцу. Напачатку не разгортвалі ані транспарантаў, ані сьцягоў. Аднак пакрысе людзі "пасьмялелі" й калёна ўквецілася сьцягамі колераў беларускае Волі. Калёна прайшла да месца мітынга, раз-пораз скандуючы лёзунгі. Людзі выгуквалі пра сваё жаданьне бачыць Беларусь у Эўропе, ухвалялі Незалежнасьць, Радзіму, Свабоду, крычалі штось пра нейкага ўрода...

Да месца мітынгу калёна дайшла прырасьціўшы свой колькасны склад. На пляцоўцы перад ДК было болей за дзьве сотні чалавек. Пачалі мітынг нетрадыцыйна – сьпевамі ведамага магілёўскага барда Ігара Мухіна. Потым былі выступы прамоўцаў. Хтось згадваў гісторыю Дня Волі, праблемы народа й свае надзёньныя, хтось выказваў прапановы па пошуку шляхоў вырашэньня тых праблемаў. Права выступу меў кожны, хто таго жадаў.

Нібы спачуваючы людзям, выглянула з-за хмарак сонейка. Праз тое не ўдалося дасягнуць эфэкту ад невялікага салюта, якім закончыўся мітынг. У промнях быў заўважны толькі дымовы сьлед ад узьлятаўшых маленькіх зарадаў. Аднак ці не перабольшваньнем падаўся той салют міліцыі, бо адзін з афіцэраў пачаў высьвятляць прозьвішча аднаго з салютоўшчыкаў. Калі ж карэспандэнт зьявіўся побач, міліцыянт адразу адчапіўся. Трэба адзначыць, што дзеяньні міліцыі былі даволі карэктнымі. Па заканчэньні мітынгу, калі чалавек шэсьцьдзясят рушыла назад да пляцу, ОМОНаўцы папярэдзілі арганізатараў і дамагліся таго, каб удзельнікі згарнулі сьцягі й транспаранты.

Адметнасьцяй акцыі была й колькасьць журналістаў, што прысутнічалі на ёй. Былі прадстаўнікі шэрагу газэтаў, а таксама абодвух магілёўскіх тэлеканалаў (праўда, як ведама, 2-гі, недзяржаўны, ніякай інфармацыі ў эфіры пра падзею не падаў). Крым таго, дзеяньні ўдзельнікаў акцыі пратэсту пэрыядычна фіксаваў міліцэйскі відэаапэратар, а таксама яшчэ адзін – у цывільным. Ад пачатку збору людзей і да моманту вяртаньня ён здымаў усё на відэакамэру. Ягоныя вочы хаваліся за акулярамі з зацемненымі шкельцамі. Здымаў ён зь люка кузава машыны, за стырном якой знаходзіўся чалавек у міліцэйскай форме. У Менску моладзь "ахрысьціла" такіх кіношнікаў "танкістамі".

P.S. Як бы ўлада не спрабавала зьменшыць значнасьць Дня Волі, – ускосна яна выказвала павагу і, мажліва, страх. Ступень апошняга, як мне падаецца, і акрэсьліваецца тымі высілкамі й сродкамі, што былі выстачаныя ўладай дзеля недапушчэньня руху калёны ўдзельнікаў акцыі пратэсту ў **іншым** кірунку, да **іншага** пляцу.

***Валадар ЦУРПАНАЎ***
***Фота аўтара, А. Ліціна***









## Рэпліка ўдзельніка

... Калі над магілёўскай сьвяточна-суботняй калёнай залуналі сьцягі, я ўзьняў палотнішча, што было пры мне. Праз нейкі час чую: "Дайце, і я патрымаю". Побач крочыла незнаёмая жанчына сталага ўзросту. "Гэта герб Таварыства беларускай мовы", – патлумачыў я малюнак на палотнішчы. "Вось і добра!" – усьміхнулася яна. Я перадаў ёй сьцяг, а сам пачаў зьбіраць подпісы пад патрабаваньнем аб адкрыцьці ў Беларусі нацыянальнага ўнівэрсытэта. Людзі падпісваліся ахвотна, нават утварылася чарга з гатовых падтрымаць вядомую ініцыятыву ТБМ.

І выступоўцы на мітынгу былі нетрадыцыйныя. Акрамя саміх ініцыятараў мітынгу на ганак-трыбуну выходзілі простыя людзі з натоўпу і дзяліліся сваім горам, выказваючы пры гэтым незадавальненьне становішчам у краіне, вінавацячы ў гэтым аднаго чалавека і створаную ім вэртыкаль.

Па заканчэньні мітынга я падыйшоў да двух міліцыянтаў і запытаў, ці паставілі б яны свой подпіс пад патрабаваньнем адкрыць у Беларусі ўнівэрсытэт, усё выкладаньне ў якім вялося б на беларускай мове. "А чаму й не?" – адказаў адзін зь іх. "Можа, даць ручку?" – узрадаваўся я. "Не, ня трэба", – і чалавек адвёў вочы ўбок.

***Булат МІХАСЁЎ***

# Дзень Волі. Бабруйск

25 сакавіка а 14-й гадзіне ад 150 да 300 бабруйчан выйшлі на плошчу Перамогі, каб адсьвяткаваць Дзень Волі. Прыйсьці на сьвята запрашалі расклееныя на гарадзкіх вуліцах ўлёткі з выявай Пагоні й тэкстам: "25 сакавіка Дзень Волі – сьвята ўсіх грамадзян Беларусі".

За гадзіну да пачатку сьвята ўвесь цэнтар Бабруйска быў ачэплены супрацоўнікамі міліцыі. Было такое адчуваньне, што міліцыянты праводзяць антытэрарыстычную апэрацыю. На плошчы Перамогі ўдзельнікаў сьвята асабіста сустракаў намесьнік старшыні гарвыканкама В.Гарбанёў. Пры гэтым ён пагражаў ім, абражаючы ўсіх, хто не спалохаўся міліцэйскіх дубінак і прыйшоў выказаць свае адносіны ў тым ліку і да праблем эканамічнага і сацыяльна-палітычнага жыцьця краіны.



Сьвята, тым ня менш, атрымалася. Сярод прысутных панаваў вясёлы настрой, людзі віншавалі адзін аднаго, было шмат моладзі. Раздаваліся каляндарыкі з нацыянальнай сымболікай і беларускім гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", газэта "Рабочы" з мясцовым дадаткам, Агульная Дэклярацыя правоў чалавека.

На жаль, пасьля таго, як людзі пачалі разыходзіцца, супрацоўнікі МУС распачалі звычайны ў нашай краіне хапун. У выніку ў міліцэйскія пастарункі былі дастаўленыя 8 непаўнагадовых, а таксама 6 дарослых удзельнікаў мерапрыемства: Тацяна Копец, Вячаслаў Сьвізуноў, Алесь Чыгір, Ігар Ходзька, Вячаслаў Капусьцін, Юры Кісьляк. Пры затрыманьні міліцыянты ўжывалі фізычны ды маральны гвалт. Асабліва гэтым вызначыўся капітан Сакалоўскі. Супрацоўнікі міліцыі правялі таксама дагляд асабістых рэчаў і дакумэнтаў затрыманых, але пратаколы аб гэтым не былі складзеныя. Затое былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэньнях, што зусім не адпавядала рэчаіснасьці.

***Тацяна КОПЕЦ***

# Дзень Волі. Горкі

25 сакавіка ў Горках на ваданапорнай вежы быў узьняты вялікі бел-чырвона-белы сьцяг. Жалезныя дзьверы, якія зьяўляюцца ўваходам на самае высокае месца ў горадзе, ня сталі перашкодай для невядомых патрыётаў. Міліцыя адмовілася здымаць сьцяг, бо небеспадстаўна хвалявалася за сваю бясьпеку. На дапамогу хутка прыехалі пажарныя, і праз 25 хвілін "узгодненых і апэратыўных дзеяньняў" сьцяг урачыста быў зьняты. Цікава, што сьцяг лунаў у ясным небе і купаўся ў промнях узыходзячага сонейка, а як толькі яго зьнялі, наплылі хмары.

Пазьней у грамадзкі інфармацыйны цэнтар патэлефанавалі сябры невядомай моладзевай арганізацыі й распавялі пра тое, што нацыянальны сьцяг узьняла 18-гадовая Алеся Якабінская. Зь яе словаў мы даведаліся, што дзяўчыну не спалохала ні цемра, ні жалезныя дзьверы, ні іржавая лесьвіца, ні моцны вецер, ні уражваючая вышыня.

Сябры палітычных партыяў у гэты дзень раскідалі па паштовых скрынях шмат улётак пра Беларускую Народную Рэспубліку. Таксама па гораду было расклееныя невялікія постэры, якія нагадвалі пра сьвята 25 сакавіка. Дзе-нідзе жыхары горада вывесілі на вокнах бел-чырвона-белыя стужкі і ў знак салідарнасьці запалілі сьвяточныя сьвечкі.

Тым часам канцэрт, які ўлады заплянавалі ў вёсцы Хамянічы, і які павінен быў адцягнуць увагу народу ад угодкаў БНР, па сутнасьці ператварыўся ў сьвяткаваньне Дня Волі: музыкі выконвалі беларускія песьні, вядучы распавёў пра гэтую гістарычную дату, а скончыўся канцэрт песьняй на словы Зянона Пазняка "Авэ Марыя".

***Віктар КАРАЛЬКОЎ***

